# Голас Радзімы

№ 23 (2165)
7 чэрвеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

# НА ДРЭВЕ СЛАВЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ МЫ НЕ СУХАЯ ГАЛІНКА




На Беларусі гучна прайшло Усесаюзнае свята славянскага пісьменства і культуры. Гэта было свята еднасці ўсіх славянскіх народаў, іх духоўнага адзінства, непадзельнасці славянскіх культур. Урачыстасці на беларускай зямлі аб'ядналі людзей: яны радаваліся таму, што сабраліся разам, што іх захапіла справа адраджэння, у якой маюць цяпер вялікую патрэбу і рускія, і беларусы, і ўкраінцы...

У час свята мы яшчэ раз пераканаліся, якія вялізныя заслугі славянства ў развіцці сусветнай цывілізацыі і ўклад яго ў скарбніцу сусветнай культуры, навукі, мастацтва. Велізарны і ахвярны ўклад славянскіх народаў у барацьбу за мір, у барацьбу супраць сіл зла і цемрашальства. Варта нагадаць Грунвальд і Кулікова поле, не вельмі далёкія гады другой сусветнай вайны, асноўны цяжар якой прынялі на свае плечы і панеслі найбольшыя страты славянскія народы.

— Я ехаў па Беларусі, і сэрца маё сціскалася ад болю: як многа на гэтай зямлі абеліскаў, як мала тут вёсак, — гаварыў, выступаючы на свяце, рускі пісьменнік Васіль Бялоў. — Да маёй роднай валагодскай вёсачкі не дакаціўся вогненны вал. Але і з яе на фронт пайшлі амаль усе мужыкі, і амаль усе загінулі. Загінуў у 43-м годзе і мой бацька. І мы ніколі не павінны забываць, што славянскія народы звязваюць самыя моцныя вузы — вузы агульнай крыві, пралітай за справядлівую справу.

Ад першанастаўнікаў, святых Кірылы і Мяфодзія, прыйшло да славян зразумелае і блізкае пісьменства, дало штуршок для больш хуткага развіцця адметнай непаўторнай літаратуры і культуры, паказала непадзельнасць усіх славянскіх народаў.

НА ЗДЫМКАХ (1, 6, 7 старонкі), зробленых фотакарэспандэнтам С. КРЫЦКІМ, фрагменты свята ў Мінску. Яно праходзіла цікава і ўрачыста, усюды было многа народу, тых, хто выступаў, і гледачоў, гасцей з розных краін і іншых рэспублік, гараджан і сельскіх жыхароў.







СУПРАЦОЎНІЦТВА

## АМЕРЫКАНСКІЯ БІЗНЕСМЕНЫ Ў МІНСКУ

— Мы вельмі зацікаўлены ў наладжванні дзелавых сувязей з Беларуссю — рэспублікай, якая ў эканамічным развіцці і паляпшэнні дабрабыту сваіх грамадзян дасягнула значна больших вынікаў, чым іншыя рэгіёны Савецкага Саюза, — заявіў Джэймс Крук, дырэктар Нью-Йоркскага аддзялення Арганізацыі ААН па прамысловаму развіццю (ЮНІДО). На чале вялікай групы амерыканскіх бізнесменаў, якія прыбылі ў СССР з мэтай наладжвання эканамічнага і прамысловага супрацоўніцтва ў рамках народнай дыпламатыі, ён знаходзіўся ў Мінску.

Прадстаўнікі дзелавых колаў ЗША сустрэліся з кіраўнікамі і спецыялістамі Гандлёва-прамысловай палаты БССР, сумесных прадпрыемстваў, вядучых знешнеэканамічных ведамстваў рэспублікі, знешнегандлёвых фірм прамысловых прадпрыемстваў Мінска. Адбыўся карысны абмен думкамі аб узаемнай гатоўнасці да супрацоўніцтва паміж амерыканскімі фірмамі і беларускімі прамысловымі прадпрыемствамі.

УЗНАГАРОДЫ

## ЗА АБАРОНУ ПОЛЬШЧЫ

У Ваўкавыску адбылося ўрачыстае ўручэнне ўзнагарод Рэспублікі Польшча шаснаццаці жыхарам горада і раёна, былым воінам, якія абаранялі ў верасні-кастрычніку 1939 года Польшчу ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Ад імя польскага народа і ўрада Польшчы консул РП у Беларусі Каліноўскі сардэчна падзякаваў былым салдатам за выкананы імі воінскі абавязак і ўручыў медалі «За ўдзел у абарончай вайне 1939 года». Ён заклікаў ветэранаў праз сваіх сяброў, родных і знаёмых прадоўжыць пошук герояў, тых, яшчэ невядомых салдат, якія з 1 верасня па 14 кастрычніка 1939 года абаранялі Польшчу ад фашыстаў. «Ніхто не павінен быць абыдзены нашай памяццю і павагай», — сказаў консул.

ГАРАДЫ-ПАБРАЦІМЫ

## БУДЗЕМ СЯБРАВАЦЬ

Новым пабрацімам Гомеля стаў шатландскі горад Абердзін. Здарылася гэта пасля падпісання дагавора аб супрацоўніцтве паміж двума радамі. На працягу трох дзён у абласным цэнтры знаходзілася прадстаўнічая дэлегацыя з «нафтавай сталіцы Еўропы», як называюць Абердзін, на чале з лордам-мэрам панам Р. Робертсанам. У ходзе знаёмства з Гомелем госці выказалі гатоўнасць да шырокага супрацоўніцтва ў эканамічнай, навуковай і культурнай галінах.

Варта сказаць, што Абердзін вядомы яшчэ як буйны рыбапрамысловы, суднабудаўнічы і тэкстыльны цэнтр Вялікабрытаніі. А яшчэ Абердзін славіцца сваімі фестывалямі, многія з якіх маюць статус міжнародных і праводзяцца кожны сезон. Ужо ў гэтую сустрэчу госці запрасілі гамяльчан наведаць адзін з іх — фальклорны, які адбудзецца ў жніўні.

Зразумелую цікавасць выклікала і прапанова шатландскага боку супрацоўнічаць у галіне медыцыны. Па словах лорда-мэра, Абердзін гатовы дапамагчы Гомелю медыцынскім абсталяваннем і прэпаратамі. Са свайго боку гамяльчане прапанавалі наступны варыянт абмену студэнтамі і спецыялістамі: у Абердзін на стажыроўку адпраўляецца група медыкаў на медыцынскі факультэт іх славутага універсітэта, а ў Гомельскі універсітэт імя Скарыны прыязджае шатландская група студэнтаў, якія вывучаюць рускую мову.

Пабрацімства паміж гарадамі яшчэ толькі завязваецца. Аднак абодва бакі задаволены шматабяцаючым пачаткам.

ПАЧАТЫ ВЫПУСК



Прыёмная ўстаноўка спадарожнікавага тэлевяшчання «Віцязь» — адна з навінак, распрацаваных калектывам канструктарскага аддзела па таварах народнага спажывання Віцебскага тэлевізійнага завода. Яна прызначана для індывідуальнага прыёму ад дзвюх да сарака тэлевізійных праграм праз еўрапейскія штучныя спадарожнікі Зямлі. Першую партыю «Віцязей» прадпрыемства выпусціць у чацвёртым квартале гэтага года.

НА ЗДЫМКУ: інжынер-канструктар Фёдар ЦІТОЎ рэгулюе цюнер для падачы сігналу на стандартны тэлевізійны прыёмнік.

*Палітычнай культуры не можа быць без пэўнага ўзроўню адукацыі, элементарнай чалавечай культуры — духоўнай, эстэтычнай. Але адкуль яна возьмецца, калі ў рэспубліцы на развіццё культуры затрачваецца толькі 0,78 працэнта з дзяржаўнага бюджэту, а па краіне—1,4 працэнта. Тое ж самае з адукацыяй. Паглядзіце, у якіх умовах працуюць нашы школы. У многіх з іх вучняў больш за норму ў два разы. А ВНУ? Дальбог, парасяты і цяляты, размешчаныя ў шыкоўных прасторных комплексах і фермах, звысоку пазлядаюць на вучняў і студэнтаў. Для ацэнкі гэтай сітуацыі ёсць біблейскае выслоўе: «Свінні з'елі людзей».*

*У такой атмасферы выхоўваліся і выхоўваюцца сёння пакаленні беларусаў. І таму не дзіўна, што яны не ведаюць сваёй гісторыі, традыцый, роднай мовы, культуры. І ў гэтым вінаваты не толькі тыя, хто за беларускае слова катаваў, ссылаў у сталінскія канцлагеры, расстрэльваў, але і той, хто ў хрушчоўскі і брэжнеўскі час выракся сваёй спадчыны, знішчаў нацыянальныя школы, ВНУ дзеля кар'еры, каб дарвацца да начальніцкіх вышынь, да поўнага карыта, у імя абсурднай ідэі зліцця моў і нацый, якая ў Беларусі атрымала найбольшую чыноўніцкую падтрымку, выпаліла душы людзей.*

*(Сяргей ЗАКОННІКАЎ, паэт, рэдактар часопіса «Полымя»).*

МІЛАСЭРНАСЦЬ



Алену і Дзмітрыя Пытлякоў у вёсцы Халоп'я Івацэвіцкага раёна ведаюць многія. Паўгода назад яны стварылі першы ў сваім раёне сямейны дзіцячы дом, узяўшы на выхаванне пяць прыёмных дзетак. Усе пяцёра — Дзіма, Анюта, Саша, Аня, Ваня — трапілі ў сям'ю Пытлякоў аслаблен[illegible] з шэрагам хранічных хвароб. Уступалі яны сва[illegible] [illegible]веснікам па развіццю. Самыя маленькія, Аня і Ваня Кулешы, амаль не ўмелі гаварыць. Цяпер, здаецца, справа пайшла на папраўку. За шэсць месяцаў, праведзеных у сям'і, яны сталі прывыкаць да ўвагі, клопату адзін аб адным, пяшчоты. У розных дзіцячых дамах выхоўваліся Анюта і Саша Арловы. Іх бацька і маці, хранічныя алкаголікі, былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў, а васьмярых дзяцей лёс раскідаў па ўсёй краіне. З цяжкасцю адшукала Алена Васільеўна яшчэ аднаго брата Анюты і Сашы — Жэню. Ён знаходзіцца ў дзіцячым доме ў Слаўгарадзе. Хацелі ўзяць да сябе, але пакуль, на жаль, плошча трохпакаёвага дома не дазваляе ажыццявіць гэта. Праўда, у райвыканкоме абяцалі дапамагчы — зрабіць прыбудову. Яраславу, старэйшаму сыну Пытлякоў, васемнаццаць гадоў, малодшаму — Ваню Кулешу — тры. Яраслаў, Арцём, Дзяніс, Вераніка Пытлякі хутка пасябравалі са сваімі новымі братамі і сястрычкамі.

Так і жыве гэтая слаўная сям'я, у якой дабрата і ласка выцяснілі многія жыццёвыя беды і няўдачы.

НА ЗДЫМКУ: сям'я ПЫТЛЯКОЎ.

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

## ЗМЕНА ПАРТНЁРА

Сумеснае савецка-італьянскае прадпрыемства, якое было створана каля года назад у Літве і называлася «Эй Джы Ві-Літова», мяняе адрас, савецкага партнёра і назву. Аб гэтым карэспандэнту ТАСС паведаміў камерцыйны дырэктар італьянскай фірмы «Эй Джы Ві» С. Пупа.

Прычыны чыста эканамічныя, адзначыў ён. Пры стварэнні ў Літве сумеснага прадпрыемства з удзелам «Эй Джы Ві» і міжнароднага інжынернага цэнтра «Літоўская спартыўная тэхніка» па вырабу спартыўных шлемаў меркавалася атрымаць крэдыт італьянскага банка «Медыакрэдытачэнтрале» для аплаты 85 працэнтаў паставак італьянскага абсталявання і тэхналогіі. Гэта сума складае 4,5 мільёна долараў. Сёння, на думку італьянскіх фінансавых колаў, Літва з'яўляецца зонай павышанай фінансавай рызыкі, таму сумеснаму прадпрыемству было адмоўлена ў атрыманні крэдыту.

У гэтай сувязі італьянскі ўдзельнік быў вымушаны выкупіць долю літоўскага партнёра ва ўстаўным фондзе сумеснага прадпрыемства і пачаць пошукі новага. Ім стала полацкае вытворча аб'яднанне «Шкловалакно» ў Беларусі, куды перавозяць абсталяванне, пастаўленае фірмай раней.

АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ

## ПРАВАЛ ПРАГРАМЫ «ЖЫЛЛЁ-2000»?

Эйфарыя з прычыны хуткага вырашэння жыллёвай праблемы, выкліканая першымі поспехамі шырока разрэкламаванай праграмы «Жыллё —2000», пастулова праходзіць. Сур'ёзным выцвержальным момантам паслужыў першы з пачатку пяцігодкі збой у рабоце жыллёвага канвеера краіны. Размова ідзе перш за ўсё аб правале жыллёвай праграмы 1989 года. У цэлым недаатрымана да плана больш за 6 мільёнаў квадратных метраў карыснай плошчы, ці амаль 100 тысяч кватэр.

Не ўсё добра і ў гэтым, 1990 годзе: першы квартал поўнасцю завалены (будаўнікі гавораць, што так было заўсёды), пачатак другога таксама не ўсяляе надзей.

Прычына зрыву ні для кога не сакрэт: як і ў іншых галінах, у будаўніцтве таксама назіраецца спад. Гэта зразумела: эканоміка краіны перажывае цяжкія часы, выкліканыя тым, што ранейшы механізм гаспадарання практычна выключыўся з работы, а новы не ўключыўся. Будаўніцтва, натуральна, не можа быць у баку ад гэтага працэсу. У ім адбываецца тое ж самае, гэта значыць яно таксама перабудоўваецца. З першага студзеня 1990 года дзесяткі тысяч трэстаў і ўпраўленняў перайшлі на разлік за гатовую будаўнічую прадукцыю, гэта значыць за зданыя (і, натуральна, прынятыя) у эксплуатацыю жылыя дамы, магазіны і прадпрыемствы, на фінансаванне будаўнічых работ за кошт уласных сродкаў і банкаўскага крэдыту (авансаванне раз і назаўсёды адмяняецца).

Толькі спецыяліст можа ў поўнай меры ацаніць радыкалізм гэтых рашэнняў. Яны сапраўды настолькі незвычайныя і непрывычныя, што спачатку ў літаральным сэнсе засмуцілі будаўнікоў. Ды і як не пасці духам, калі яшчэ ўчора можна было за тыя ж грошы практычна нічога не рабіць, а сёння даводзіцца «ўколваць». На многіх такая перамена падзейнічала нібы шокавая тэрапія. Адсюль — і спад.

Вяртаючыся да пачатку нашай размовы, хацелася б усё ж падкрэсліць: поспех першых трох гадоў перабудовы, бясспрэчна значны. Ужо хаця б таму, што ўпершыню ўдалося зрушыць з мёртвага пункту гадавы аб'ём жылля, якое ўзводзіцца ў краіне. Ён на працягу апошніх дзесяцігоддзяў трымаўся на ўзроўні 100 мільёнаў квадратных метраў (прыкладна 2—2,5 мільёна кватэр і аднасямейных дамоў). Але ўжо ў першы год перабудовы ўдалося ўзвесці 119,8 мільёна квадратных метраў; у другі больш — 131,5 мільёна; у трэці яшчэ больш — 135 мільёнаў. На чацвёрты запланавалі 128 мільёнаў квадратных метраў у розніку на тое, што будаўнікі, як і ў папярэднія гады, перакрыюць гадавую праграму. Аднак працэс інтэнсіўнага ўваходжання ў рэформу негатыўна адбіўся на дынаміцы росту, што ўжо выразна абазначылася.

Узнікшы збой у рабоце жыллёвага канвеера адчувальны яшчэ і таму, што будаўніцтва, мусіць, адзіная галіна ў эканоміцы, якая ў першыя часы ўсё ж паверыла ў добрыя мэты перабудовы і спрацавала добра, можна нават сказаць, на мяжы сваіх магчымасцей.

А як жа праграма «Жыллё — 2000», стратэгічная мэта якой — забяспечыць да 2000 года кожную сям'ю асобнай кватэрай ці домам? Для дасягнення яе, як было падлічана на этапе прапрацоўкі праграмы, неабходна пабудаваць каля двух мільярдаў квадратных метраў жылля. У далейшым высветлілася, што гэтага, калі аб'ектыўна ўлічваць усе акалічнасці, у першую чаргу развіццё дэмаграфічных працэсаў у краіне і якасныя змяненні па меры руху да мэты ў стандарце жылля, будзе недастаткова. Трэба як мінімум 2,7—2,8 мільярда, што ў пераліку на асобныя жылыя адзінкі раўназначна 40—42 мільёнам кватэр і асобных дамоў.

Ці па сіле такая праграма будаўнікам? Пытанне не пустое: бо для таго, каб да 2000 года выйсці на намечаны ў праграме аб'ём работ, трэба па меншай меры падвоіць тэмпы жыллёвага будаўніцтва ў краіне. Між тым матэрыяльная і тэхнічная база будіндустрыі ў працэсе працяглай і, калі так можна сказаць, выключна спажывецкай эксплуатацыі прыйшла ў поўны заняпад. Абнаўленне, рэканструкцыя, навукова-тэхнічны прагрэс былі, па сутнасці, выгнаны з яе.

І вось цяпер даводзіцца атрымліваць плён такой недальнабачнай, а ўтрыманскай палітыкі, замест таго каб укладваць грошы выключна ў нарошчванне аб'ёмаў узводзімага ў краіне жылля, будаўнікі вымушаны частку прадастаўленых ім сродкаў траціць на рэканструкцыю і тэхнічнае пераўзбраенне галіны. Ужо сам па сабе гэты факт гаворыць аб многім. Але ж цяпер і гэтых грошай у іх няма. Нагадаем: з 1990 года галіна на самафінансаванні. Значыць, рэканструкцыю і тэхнічнае пераўзбраенне, у якія ўцягнуты зараз практычна ўсе домабудаўнічыя камбінаты краіны і многія заводы па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і абсталявання, ім прыйдзецца завяршаць за кошт таго, што ўдасца зарабіць.

Тое, што будаўнікам даводзіцца цяпер жыць і працаваць на свае грошы, гэта ўвогуле добра: самафінансаванне прымусіць іх лічыць кожную капейку, берагчы кожную цагліну, цаніць кожную мінуту рабочага часу. Але, з другога боку, рэканструкцыя, расходы на яе — усё гэта не можа не адбіцца на паскарэнні тэмпаў жыллёвага будаўніцтва ў краіне. Менавіта гэта акалічнасць і выклікае сёння найбольш сур'ёзныя сумненні адносна таго, ці ўдасца да 2000 года выйсці на той узровень забеспячэння насельніцтва жыллём, які можна было б кваліфікаваць як вырашэнне жыллёвай праблемы ў краіне.

Аляксандр ДЗЕДУЛ.

## *ДАХОДЫ НАСЕЛЬНІЦТВА І ІНФЛЯЦЫЯ*

# ЯК СУМЯСЦІЦЬ НЕСУМЯШЧАЛЬНАЕ

**У апошнія 2-3 гады даходы насельніцтва СССР растуць намнога хутчэй, чым вытворчасць тавараў і паслуг. Незбалансаванасць іх росту вагаецца ў межах 10-11 працэнтаў, што раўназначна прыкладна такому ж узроўню інфляцыі ў краіне.**

**Ад інфляцыі, росту цэн, дэфіцыту, абясцэньвання рубля пакутуюць усе слаі насельніцтва, але больш за ўсё — сем'і з нізкімі даходамі, уключаючы мнагадзетныя, а таксама — асобы з фіксіраванымі даходамі: пенсіянеры, студэнты, урачы, настаўнікі...**

**Паводле афіцыйных даных, пражытачны мінімум у 1989 годзе вызначаўся 78 рублямі ў месяц на кожнага члена сям'і. Зыходзячы з гэтай ацэнкі, колькасць насельніцтва СССР, што знаходзіцца за мяжой беднасці, складае 41 мільён чалавек (14,5 працэнта).**

**Праблема нізкіх даходаў — гэта цяпер не толькі праблема «пражытачнага мінімуму». Сацыяльна-маёмасная піраміда СССР у апошні час усё больш хіліцца да беднасці: прыкладна 62 працэнты насельніцтва краіны маюць сярэднедушавы даход у месяц ніжэй за 150 рублёў, 31 працэнт — ад 150 да 250 рублёў і толькі 7 працэнтаў — звыш 250 рублёў. Па структуры спажывання першую групу можна пазначыць як малазабяспечаную, другую — як сярэднезабяспечаную і трэцюю — як тую, што жыве ў дастатку. Такім чынам, інфляцыя балюча адбіваецца на ўзроўні і якасці жыцця практычна ўсяго насельніцтва СССР. У выніку малазабяспечаныя сем'і становяцца яшчэ больш беднымі, а тыя, хто раней яшчэ так-сяк зводзіў канцы з канцамі, апускаюцца ў разрад малазабяспечаных. Адсюль вывад: і цяпер, і з улікам даўгачаснага характару інфляцыйных працэсаў праблема сацыяльнай абароненасці грамадзян ад абясцэньвання рубля выступае цэнтральнай у сістэме сацыяльнай справядлівасці.**

**Што ў гэтай сувязі бачыцца найбольш разумным, калі сур'ёзна займацца нейтралізацыяй негатыўных вынікаў інфляцыі? Перш за ўсё, думаецца, патрэбна тэрміновая распрацоўка сістэмы сацыяльных кампенсатараў, якая магла б кампенсаваць савецкім людзям панесеныя страты і забяспечыць доступ да задавальнення першачарговых патрэб не толькі ў вартасным, але і ў натуральным выражэнні. У першую чаргу маюцца на ўвазе патрэбы ў харчаванні, жыллі, адзенні. У гэтай сувязі жыццёва важна вызначыць законам сацыяльны нарматыў мінімуму душавога даходу, які быў бы сродкам сацыяльнай абароненасці малазабяспечаных ад беднасці і галечы. Даны нарматыў неабходны яшчэ і таму, што з яго дапамогай можна было б выявіць у вартасным і натуральным вылічэнні ўзровень, ніжэй за які ў сацыяльным плане апускацца нельга.**

**Улічваючы фактар часу, распрацоўку сістэмы сацыяльных кампенсатараў трэба было б пачаць ужо цяпер. Апярэдзіць у данай сітуацыі неабходна яшчэ і таму, што наперадзе грунтоўная рэформа цэн, звязаная са шматразовым іх павышэннем. Своечасовая падрыхтаванасць да яе дазволіць зняць ці змякчыць непазбежную пры гэтым сацыяльную напружанасць.**

**У дыскусіях аб праблеме сацыяльных кампенсатараў даволі часта выказваецца такі пункт гледжання: маўляў, для таго каб нівеліраваць вынікі інфляцыі, тэмпы яе росту павінны быць улічаны пры выплаце заработнай платы, пенсій і г. д. Размова, такім чынам, ідзе аб усеагульнай індэксацыі даходаў. Ідэя гучыць прыгожа. Асабліва — на фоне ранейшага традыцыйнага падыходу, калі час ад часу праводзілася павышэнне заработнай платы тым ці іншым групам работнікаў. Але давайце паглядзім на гэтую праблему ў іншым ракурсе.**

**Усеагульная індэксацыя даходаў, калі да яе падыходзіць аб'ектыўна, можа выступаць і як фактар узмацнення інфляцыі, раскручвання яе спіралі. Звязана гэта з тым, што ўзровень інфляцыі базавага года будзе аўтаматычна пераносіцца на наступны год. Напрыклад, у 1989 годзе заработная плата ў СССР была 100 рублёў, а ўзровень інфляцыі — 10 працэнтаў. Значыць, у 1990 годзе зарплата ўсіх занятых у народнай гаспадарцы СССР павінна быць не менш за 110 рублёў. Калі такі падыход прымяніць да ўсіх выплат, то будзе адбывацца аўтаматычны рост з боку попыту, што ва ўмовах незбалансаванасці рынку яшчэ больш ускладніць сітуацыю. Пры дзеючай цяпер у СССР затратнай сістэме гэта выкліча непазбежны рост выдаткаў, а праз іх — і далейшы рост цэн. Інфляцыя, такім чынам, будзе нібыта запраграміравана.**

**З гэтага вынікае вывад: індэксацыя павінна насіць абмежаваны характар і прымяняцца толькі ў адносінах малазабяспечаных слаёў насель ва: пенсіянераў, студэнтаў, гадзетных, інвалідаў, беспрацоўных і г. д. Для павышэння даходаў усіх слаёў насельніцтва мэтазгодна ўвогуле зняць усялякія абмежаванні, у тым ліку — і на другасную тасць. Больш разнастайнымі павінны быць і самі крыніцы даходаў. Пазітыўную ролю ў гэтай сувязі можа адыграць атрыманне даходаў насельніцтвам ад паявых узносаў, акцый, дзяржаўных каштоўных папер і г. д. Хаця, вядома, галоўную ролю павінна адыграць атрыманне даходаў за кошт паляпшэння гаспадарчай дзейнасці, павышэння прадукцыйнасці працы.**

**Прызнаючы важнасць індэксацыі даходаў малазабяспечаных грамадзян краіны, варта тым не менш з усёй аб'ектыўнасцю адказаць на пытанне: як яе праводзіць? Калі мы возьмем за аснову сярэдні ўзровень росту цэн, то гэта прывядзе да таго, што мінімальныя даходы даволі хутка пачнуць збліжацца з сярэднімі. Значыць, дыяпазон індэксацыі пачне расшырацца, што прывядзе да перарастання частковай індэксацыі ва ўсё больш поўную. Таму, калі і ісці па шляху індэксацыі даходаў вышэйпамянёных груп насельніцтва, то ў аснову павінен быць пакладзены прынцып мінімальнай «спажывецкай карзіны», разлічанай зыходзячы з пражытачнага мінімуму (пад якім разумеецца сума расходаў, неабходная для задавальнення мінімальных жыццёвых патрэб). У гэтую «спажывецкую карзіну» павінны быць уключаны расходы на хлеба-булачныя вырабы (за выключэннем кандытарскіх вырабаў), крупы, макаронныя вырабы, мяса і каўбасу (вядома, не дарагіх сартоў). Паколькі ў малазабяспечаных сем'ях, згодна з афіцыйнымі данымі, расходы на харчаванне перавышаюць палавіну бюджэту, то для разліку пражытачнага мінімуму гэтую мінімальную суму расходаў на харчаванне неабходна падвоіць. Гэта і дасць нам вартасную велічыню, якая вызначае задавальненне мінімальных жыццёвых патрэб.**

**Зразумела, што ва ўмовах інфляцыйнага росту індэксацыя даходаў малазабяспечаных груп па мінімальнай «спажывецкай карзіне» будзе не паспяваць за ростам інфляцыі. Таму патрэбны будуць іншыя формы сацыяльных кампенсатараў, дыферэнцыраваныя па групах насельніцтва. Адной з такіх форм можа стаць праграма бясплатных прадуктовых і іншых талонаў. Па гэтай праграме асобы з нізкімі даходамі атрымліваюць талоны, што даюць права на набыццё пэўных прадуктаў харчавання ў сістэме дзяржаўнага гандлю. Гэта можа быць ці спецыяльная сетка магазінаў, ці размеркавальнікі тыпу «продажу па заказах».**

**Праграма гэтая ў першую чаргу павінна ахопліваць пенсіянераў, інвалідаў, мнагадзетныя сем'і, а таксама сем'і, што страцілі карміцеля, гэта значыць групы з даходамі, ніжэйшымі за пражытачны мінімум. Крыніцамі фінансавання могуць і павінны быць сродкі саюзнага, рэспубліканскага і мясцовага бюджэту. Вялікую ролю ў стварэнні сістэмы падтрымкі маламаёмасных могуць адыграць розныя грамадскія і добраахвотныя арганізацыі, таварыствы міласэрнасці, якія займаюцца дабрачыннай дзейнасцю.**

**Для асоб, што выходзяць на пенсію, у якасці сацыяльнага кампенсатара могуць выкарыстоўвацца і ўласныя зберажэнні, якія накопліваюцца ў Ашчадным банку на пенсійных кніжках. Пры ўмове, што выкарыстаць гэтыя зберажэнні можна будзе толькі пры дасягненні пенсійнага ўзросту альбо ў выпадку страты працаздольнасці. Паколькі ўклады з'яўляюцца доўгатэрміновымі, іх таксама варта індэксіраваць (з улікам росту інфляцыі). Такая форма з'яўляецца больш гнуткай у параўнанні з сістэмай Дзяржстраху. Тут кожны вырашае сам — адкрываць ці не адкрываць рахунак, якую суму і калі ўносіць.**

**Пенсійныя ашчадныя кніжкі дазваляюць вырашыць адразу некалькі задач: звязаць частку грашовых даходаў насельніцтва на мэтавых доўгатэрміновых укладах, прыцягнуць да фарміравання пенсійнага фонду сродкі насельніцтва, забяспечыць павышэнне даходаў пенсіянераў.**

**У якасці сацыяльных кампенсатараў могуць выкарыстоўвацца і сродкі прадпрыемстваў, якія практыкуюць даплаты да пенсій сваіх работнікаў (ці ажыццяўляюць мэтавыя пераводы на іх пенсійныя ашчадныя кніжкі), аказваюць матэрыяльную падтрымку мнагадзетным сем'ям, стыпендыятам, накіраваным на вучобу ад данага прадпрыемства, і т. п. Усе гэтыя выплаты, натуральна, не павінны абкладацца падаткамі.**

**Выплата пражытачнага мінімуму, індэксацыя даходаў малазабяспечаных, іншыя праграмы па падтрыманню жыццёвага ўзроўню — усё гэта важныя напрамкі сацыяльнай абароненасці насельніцтва ад інфляцыйных працэсаў. Хаця пры гэтым кожны напрамак вырашае свае задачы. Але эфект, прычым сапраўдны, можа быць атрыманы толькі ў тым выпадку, калі яны будуць аб'яднаны ў адзіную сістэму сацыяльнай дапамогі.**

**Міхаіл ГАРАЧАЎ,**
**кандыдат эканамічных навук.**

## СТАРОНКІ ПЕРАЖЫТАГА

# *МАЕ КАМАНДЗІРЫ*

АДНОЙЧЫ ў гарадскім аўтобусе давялося чуць гутарку двух мужчын сярэдніх гадоў. Адзін з іх агрэсіўна выступаў супраць партызан, называючы іх грабежнікамі. Падумалася: няўжо чалавек не разумее, што народныя мсціўцы добраахвотна ( без мабілізацыйных павестак) ішлі змагацца за свабоду роднага краю з лютым ворагам чалавецтва — нямецка-фашысцкімі захопнікамі? Я сам быў у мясцовай брыгадзе імя Ракасоўскага і не магу засведчыць, што мае баявыя сябры некага з мірных жыхароў абрабавалі, пакрыўдзілі. Сяляне самі, арганізавана забяспечвалі нас небагатым харчаваннем. Але даводзілася і галадаць, асабліва ў аблаву.

Здаралася, каб скампраметаваць народных мсціўцаў у вачах насельніцтва, немцы пад выглядам партызан пасылалі ў вёскі бандыцкія групы, і яны здзекаваліся з людзей, забівалі.

Праўда, у ваенны час трапляліся вылюдкі, якія без фашысцкага накірунку рабілі людзям шкоду. Але і ў наш мірны час знаходзяцца злачынцы. Гэта не значыць, што ўсіх агульна трэба ганьбіць.

Нялёгка было партызанам. Таму крыўдна слухаць злосны паклёп у іх адрас. І я ўспомніў яркія прыклады чуласці, задушэўнасці камандзіраў двух тызанскіх атрадаў.

Партызанскія групы паявіліся на Слонімшчыне ў першыя месяцы акупацыі. У 1942 годзе групы пачалі аб'ядноўвацца ў атрады. Так стварыліся а ы імя Шчорса, І. Зайца азней перайменаванага ў атрад Панамарэнкі). Атрад імя Шчорса, у які ўступілі камсамольцы вёскі Чамяры, падаўся за Івацэвічы, а атрад імя Панамарэнкі базіраваўся ў лясах за Харашэвічамі.

У верасні 1942 года ў Ваўчанорскіх лясах (за Акунінавам) быў створаны вялікі партызанскі атрад «Савецкая Беларусь», які ўзначаліў лётчык-акружэнец капітан Чырвонай Арміі Мікалай Бабкоў. Шмат хлопцаў са Слонімшчыны ваявала ў гэтым атрадзе. М. Бабкоў паказаў сябе ўмелым, адважным камандзірам, разумеў, што без усебаковай разведкі цяжка змагацца з добра ўзброенымі гітлераўцамі. Таму шукаў сувязі са слонімскімі падпольшчыкамі. Мы, падпольшчыкі-антыфашысты, у сваю чаргу, таксама імкнуліся наладзіць сувязь з моцным партызанскім згуртаваннем.

Так у лістападзе 1942 года адбылася першая сустрэча з камандаваннем «Савецкай Беларусі». На адзін з хутароў каля вёскі Сяргеевічы мы (Феакціст Міско, Георгій Пыцель і я) прыбылі першыя. Прыблізна праз паўгадзіны пад'ехалі да хутара на дзвюх санных брычках з некалькімі коннымі аўтаматчыкамі партызанскія камандзіры.

Знаёмства адбылося ў хаце за гасцінным сталом. Першую чарку выпілі за сустрэчу, другую — за перамогу Чырвонай Арміі.

Пасля вячэры Мікалай Уладзіміравіч і мы трое пайшлі адпачываць на засланай радзюжкамі саломе. Аднак не спалі да світання, абмяркоўвалі пытанні сумеснай барацьбы. Бабкоў прасіў нас асцерагацца, не рызыкаваць, не рвацца на дыверсіі.

А тым часам з кожным днём партызанскі рух набіраў размах. 13 жніўня 1943 года атрад «Савецкая Беларусь» выдзеліў групу партызан на чале з Аляксеем Серым для стварэння новага партызанскага атрада імя Дзяржынскага як зародка будучай брыгады імя Ракасоўскага, якая да 10 ліпеня 1944 года налічвала 808 партызан, у тым ліку 520 беларусаў.

Аляксей Серы нарадзіўся ў вёсцы Акунінава. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчай барацьбе тры гады пакутаваў у турме буржуазнай Польшчы, дзе атрымаў рэвалюцыйную загартоўку.

Хлопца не пакінулі без «увагі» і нямецкія фашысты. Па даносу прытоенага ліхадзея ён быў арыштаваны і дастаўлены ў Быцень, а адтуль — у слонімскую турму. Арыштаванага абвінавачвалі ў нелегальнай дзейнасці... у час белапольскай акупацыі Заходняй Беларусі.

На працягу сямі месяцаў жонка насіла «падноску» нейкаму здрадніку, і арыштаваны вярнуўся дадому.

Аляксей увесь час дапамагаў народным мсціўцам, якія гуртаваліся ў лесе за вёскай Воўчыя Норы. Аднак жыць у Акунінаве было вельмі ненадзейна. І ён з братам Андрэем у верасні 1942 года далучыўся да партызан.

З той пары не было спакою на душы сястры Веры: ледзь пачуецца стук на дварэ, яна выбягала з хаты, каб глянуць, свае гэта ці паліцаі.

Нарэшце і для Веры з малодшым братам Валодзем настаў крытычны дзень. 22 снежня 1942 года, пачуўшы гул машыны, яны выбеглі з роднай хаты, накіраваліся ў сасоннік, дзе тры месяцы назад зніклі з вачэй Алёша і Андрэй. І ўжо не вярнуліся ў матчына гняздо. Яны прынеслі сумную вестку: карнікі спалілі вёску, расстралялі жыхароў (потым было падлічана — 299 чалавек). Загінула маці Серых з дочкамі — сямігадовай Любай і дзесяцігадовай Галінай.

Аляксей, Андрэй, Уладзімір і Вера сталі актыўнымі народнымі мсціўцамі атрада «Савецкая Беларусь». А ў жніўні 1943 года стварылі новы атрад.

У канцы лістапада 1943 года я прыбыў у атрад імя Дзяржынскага, дзе і пазнаёміўся з Аляксеем Серым. Гэта быў вясёлы, рухавы хлопец, хоць заўсёды насіў у сэрцы боль па страчаных маці і сёстрах. Камандзіра вызначала прастата, баявы настрой, бо, бадай, не было ніводнай значнай баявой аперацыі, у якой не прымаў бы ўдзелу. Ён проста звяртаўся да партызан: «Ну, хлопцы, пайшлі на заданне».

Партызанская сям'я Серых амаль заўсёды разам хадзіла на баявыя заданні. А яны — не вясёлыя прагулкі, можна і загінуць. Гэта добра ведаў Аляксей Сцяпанавіч. Але ведаў і тое, што яго родныя будуць бязлітасна біць фашыстаў за ўсе злачынствы, якія яны твораць на Беларусі.

Пасля вызвалення Беларусі камандзір атрада вярнуўся ў родную вёску, пабудаваў на папялішчы новую хату. Працаваў леснікам. А лес палюбіў змалку, ведаў як свае пяць пальцаў. Ды і як яго не любіць!

**Іван МІСКО.**

*НАТАТКІ З ПАДАРОЖЖА*

# СХОД У БОМЕ

**Сёлета ў красавіку ў Бельгіі пабываў журналіст Уладзімір Мялешка. Нашы землякі з Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі папрасілі перадаць сабраныя імі лякарствы «дзецям Чарнобыля». Бальніцы Гомельшчыны і Магілёўшчыны атрымалі іх дар.**

**Сёння мы друкуем нататкі Уладзіміра МЯЛЕШКІ.**

— Дзяўчаты збіраюцца сёння ў Боме.

Марыя сказала і ўважліва паглядзела на мяне.

Я зразумеў яе позірк. Дзяўчаты — нашы суайчынніцы, члены Бомскага аддзела Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі. Сёння — нядзеля. І яны збіраюцца на свой чарговы сход.

Марыі, вядома, хочацца на сход. Але сітуацыя для яе складаная: я — госць у іх доме, тым больш толькі што прыехаў.

Гадзіну назад мы сустрэліся на пероне вакзала Брусель Норд. Для мяне засталіся ззаду пагранічны Брэст, Варшава, начны Берлін, дзе я і мае спадарожнікі пільна ўглядаліся, каб убачыць, што ж засталося ад «той» сцяны. Мой сусед па купэ падрыхтаваўся сфатаграфаваць славуты Кёльнскі сабор, але ён схаваўся за рэстаўрацыйнымі рыштаваннямі. І вельмі здзівіла нас, што ў, здавалася б, раўніннай Бельгіі цягнік разпораз «ныраў» у тунелі.

Паездка праз усю Еўропу, безумоўна, стамляе. І, канечне ж, я быў рады, што нарэшце выйшаў на перон у Бруселі. Сярод сустракаючых убачыў Марыю і яе мужа Жоржа. Іх госцем стаnavіўся я на некалькі дзён.

Ад Бруселя да Вілворда даехалі хутка. Жорж шмат гадоў працаваў вадзіцелем на вялікагрузных трайлерах, таму паездка на ўласным «кавалеры» для яго проста забава. Пакуль ехалі, я даведаўся пра апошнія сямейныя навіны: у Карыны справы ідуць добра, хаця нядаўна іх магазінчык спрабавалі абрабаваць, Соня і Эдзі збіраюцца купляць уласны дом, Віктар змяніў месца работы і цяпер падоўгу бывае ў камандзіроўках. Асабліва цёпла гаварылі Марыя і Жорж пра ўнучак Кацю і Стэфанік, у якіх цяпер канікулы...

А калі мы праязджалі па Фліркенстраат, каб пасля павярнуць на Ёрданстраат, дзе жывуць дэ Вухты, Марыя сказала, што «дзяўчаты збіраюцца сёння ў Боме».

Ведаю, што нашы суайчынніцы цёпла і сардэчна прымаюць гасцей, якія прыязджаюць з Радзімы. І гэта натуральна. Ёсць магчымасць пагаварыць з новым чалавекам, пачуць апошнія навіны, задаць набалелае пытанне...

Мне таксама хацелася пабываць на сходзе ў Бомскім аддзеле ССГ. Тым больш, што з некаторымі яго членамі я знаёмы даўно, яшчэ калі працаваў у «Голасе Радзімы». Таму адразу было вырашана: пасля абеду едзем у Бом.

Збіраюцца нашы суайчынніцы ў адным са шматлікіх кафэ. «Яго гаспадар сімпатызуе рускім», — растлумачыла мне Паліна Чапухіна, кіраўнік аддзела. Гэтая жанчына, слабенькая з выгляду, але вельмі рухавая і энергічная, ужо шмат гадоў узначальвае аддзел. Некалькі разоў спрабавала перадаць кіраўніцтва ў іншыя рукі. Вось і сёлета вырашыла: «Вясну яшчэ дацягну, а ўвосень хай перавыбіраюць». Праўда, Вера Сазановіч, спакойная, разважлівая беларуска з Магілёўшчыны, толькі пасмейваецца: «Нікуды ты, Паліна, не дзенешся. Адпачнеш за лета і будзеш працаваць».

З Верай мы знаёмы даўно. Сустракаліся і ў Мінску, і ў яе родных мясцінах недалёка ад Круглага. Я бачыў хатку, дзе нарадзілася Вера, дзе і сёння жыве яе старэнькая маці, пісаў пра нашы сустрэчы.

На сход жанчыны прыязджаюць разам са сваімі мужамі. Хоць і невялічкая краіна Бельгія і грамадскі транспарт працуе добра, а ўсё ж лепей дабірацца на сваім аўтамабілі. «Калі Жорж часам не можа павезці мяне, то я і не траплю на сход», — гаварыла Марыя.

Пакуль яны засядаюць у задчім пакоі, мужчыны ў кафэ пацягваюць піва і вядуць сваю нетаропкую гаворку. У тыя вялікодныя дні бельгійцы агульным галасаваннем адлучылі свайго караля ад манаршай улады на паўтара сутак: «не бегай да прыгажунь лёгкіх паводзін». Але былі тэмы і больш сур'ёзныя. Што чакаць у будучыні ад маючага адбыцца аб'яднання дзвюх Германій? Ці варта даваць права голасу эмігрантам з Афрыкі, якія ўсё актыўней праяўляюць сябе ў Бельгіі?

А на сходзе ў той дзень гаварылі пра Чарнобыль. Літаральна праз некалькі дзён спаўнялася чацвёртая гадавіна атамнай катастрофы. Нашых суайчынніц цікавіла ўсё: што адбылося тады, чатыры гады назад на Чарнобыльскай АЭС? Хто вінаваты? Чаму і сёння на забруджаных землях жывуць людзі? Пытанні, пытанні. А ці ёсць на іх адказы?..

Мы ведаем, што Чарнобыль закрануў лёсы мільёнаў людзей. У выніку катастрофы забруджана вялікая тэрыторыя трох рэспублік. У Беларусі тысячы гектараў урадлівай зямлі фактычна выйшлі з ужытку. Сёння мы, нашы дзеці і ўжо ўнукі гаворым пра бэры[illegible]юры, пра «гарачыя часці[illegible]» і радыенукліды... Прызвыча[illegible]ся. Але ж ці можна прызвычаіцца да надзвычайных умоў? Не можам і сёння да канца ўявіць сітуацыю, у якой цэлы народ апынуўся заложнікам атамнага монстра. Выйсце з гэтага стан[illegible]ча — канкрэтныя справы. І [illegible]е галоўнае — дапамагчы тым, хто стаў ахвярай Чарнобыля.

Адказваючы так, я бачыў, што людзі вераць, спачуваюць і гатовы дапамагчы. Высветлілася, што яны ўжо даўно збіраюць медыкаменты, медыцынскі інструмент. І найбольшы ўклад зрабіла Марыя Пенгель з горада Брашхата. Ёй дапамаглі бельгійскія ўрачы А. Вайтэрс і Г. Бляйверт з Брашхата, а таксама Рудольф Дзірыкс з Антверпена.

— Медыкаменты падрыхтаваны, гэта некалькі скрынак,— гаварыла Паліна Чапухіна. — І мы б хацелі пераслаць іх у Мінск. Калі вы пагодзіцеся...

Я, канечне, пагадзіўся. Фармальнасці з афармленнем у Савецкім консульстве былі выкананы хутка. Да «бомскага грузу» былі яшчэ дададзены медыкаменты ад нашых суайчынніц з Бруселя і Антверпена, магчыма і з іншых гарадоў. Іх перадалі мне перад ад'ездам Паліна Вага, былы рэдактар часопіса «Патриот», і старшыня Цэнтральнага праўлення Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі Вера Кушнарова.

Як і было дамоўлена, у Мінску я перадаў медыкаменты ў Беларускае таварыства «Радзіма».

А днямі мне давялося гутарыць са старшынёй прэзідыума таварыства, народным мастаком СССР Міхаілам Савіцкім. Ён паведаміў, што ўсе медыкаменты былі перададзены праз Міністэрства аховы здароўя для «дзяцей Чарнобыля». І яшчэ раз падзякаваў усім нашым жанчынам-патрыёткам у Бельгіі за спачуванне і дапамогу тым, хто стаў ахвярай Чарнобыля.

Вось такі асноўны вынік маёй паездкі ў Бельгію. Магу сказаць, што даручаную місію выканаў. Мой расказ — пра адзін дзень знаходжання ў гэтай краіне. А былі ж і іншыя. Ды пра гэта, магчыма, другім разам.



Помнік вялікаму рускаму паэту Аляксандру Пушкіну ў Віцебску.

## НОВАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА СССР АБ ПАДАХОДНЫМ ПАДАТКУ

# ШТО ЧАКАЕ ЗАМЕЖНЫХ ГРАМАДЗЯН

З 1 ліпеня 1990 года ўступае ў сілу Закон СССР «Аб падаходным падатку з грамадзян СССР, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства». Гэты закон — адно са складаемых радыкальнай рэформы. Ён уключае як удасканаленне савецкага заканадаўства аб падатках, так і арганізацыйную перабудову падатковай службы.

У перспектыве намечана перайсці да універсальнай сістэмы прагрэсіўнага падаткаабкладання асабістых даходаў на падставе дэкларацый. На першым [illegible]е гэтай перабудовы, на жаль, не ўда[illegible] адмовіцца ад раздзельнага індывідуальнага падаткаабкладання даходу ў залежнасці ад яго крыніцы. Захоўваецца становішча, пры якім заработная плата і жалаванне, напрыклад, абкладаюцца па адной шкале, аўтарскія ўзнагароджанні — па другой, [illegible]оды ад індывідуальнай асабістай дзе[illegible]ці — па трэцяй і г. д. Такіх шкал у [illegible]аконе шэсць, і велічыня падаткаабкладання залежыць ад характару даходу.

Новы Закон унёс мноства змяненняў у парадак падаткаабкладання асабістых даходаў, аднак некаторыя з іх (напрыклад, павышэнне неабкладаемага мінімуму, расшырэнне льгот для ўдзельнікаў вайны і шэраг іншых) не маюць практычнага значэння для замежных грамадзян і таму не будуць тут упамянуты.

Упершыню ў практыку ўведзена разуменне «рэзідэнт», адсутнасць якога ў мінулым істотна адрознівала савецкае і замежнае падатковыя заканадаўствы. Замежны грамадзянін, які прабыў у СССР больш за 183 дні ў каляндарным годзе, разглядаецца як асоба з пастаянным месцажыхарствам у краіне (рэзідэнт), мае ў сувязі з гэтым неабмежаваную падатковую адказнасць і абкладаецца падаткам на падставе дэкларацыі аб усіх сваіх даходах незалежна ад крыніцы іх узнікнення.

Наадварот, замежны грамадзянін, які знаходзіцца ў краіне менш за 183 дні ў каляндарным годзе, будзе абкладацца падаходным падаткам толькі ў адносінах даходаў, атрыманых ім з крыніц у Савецкім Саюзе. У адрозненне ад рэзідэнта такі плацельшчык мае абмежаваную падатковую адказнасць і вызвалены ад прадстаўлення дэкларацыі. Утрыманне падатку па паніжанай стаўцы, што прымяняецца да валавога даходу, павінна ажыццяўляць арганізацыя, якая выплачвае даход.

Змяніўся і памер падатку. Для асоб, якія маюць даходы ад работы па найму (а гэта найбольшая колькасць замежных грамадзян у Савецкім Саюзе — прадстаўнікі фірм, банкаў і арганізацый, работнікі сумесных прадпрыемстваў, журналісты і карэспандэнты, тэхнічныя спецыялісты), устанаўліваецца прагрэсіўная шкала падаткаабкладання са стаўкамі ад 13 да 60 працэнтаў. Пры гэтым максімальная стаўка прымяняецца да часткі даходу, што перавышае 3 тысячы рублёў.

Законам прадугледжана расшырэнне некаторых ільгот для асоб з пастаянным месцажыхарствам у Савецкім Саюзе. Так, сума падатку зніжаецца на 30 працэнтаў пры наяўнасці ў падаткаплацельшчыка трох і больш утрыманцаў (раней скідка прадастаўлялася пры чатырох і больш). Акрамя таго, дазволена змяншаць абкладаемы даход на суму дабрачынных узносаў. У склад абкладаемага даходу замежных грамадзян не ўключаюцца таксама сумы, што адлічваюцца наймальнікам у фонды дзяржаўнага сацыяльнага страхавання і пенсійнага забеспячэння, сумы кампенсацыі расходаў па найму жылога памяшкання і на ўтрыманне аўтамабіля для службовых мэт, а таксама сумы камандзіровачных расходаў. З другога боку, надбаўкі, што выплачваюцца ў сувязі з пражываннем у СССР, а таксама для кампенсацыі некаторых асабістых расходаў, падлягаюць падаткаабкладанню.

Яшчэ адна група — гэта асобы, якія не разглядаюцца для мэт падаткаабкладання як рэзідэнты і атрымліваюць даходы з крыніц у Савецкім Саюзе. А менавіта — ад артыстычнай, спартыўнай дзейнасці, аўтарскіх узнагароджанняў за выданне ці выкананне твораў у СССР. Акрамя таго, ад удзелу ў сумесных прадпрыемствах, дывідэндах і іншых даходах, крыніца выплаты якіх знаходзіцца ў СССР. Гэтыя асобы будуць плаціць падатак па стаўцы 20 працэнтаў, якая можа быць зменена ў адпаведнасці з пагадненнем Савецкага Саюза з іншымі дзяржавамі аб ліквідацыі двайнога падаткаабкладання даходаў.

Павышана адказнасць падаткаплацельшчыкаў за несвоечасовае прадстаўленне дэкларацый аб даходах, а таксама за ўтойванне (заніжэнне) фактычна атрыманых даходаў. Асабліва суровыя санкцыі прадугледжаны, калі гэта тычыцца свабодна канверсуемай валюты.

Як і раней, падатак можа быць заплачаны ў рублях ці ў валюце, наяўнымі ці пераводам сродкаў з рахунку ў савецкай ці замежнай крэдытнай установе. Упершыню ў савецкае заканадаўства ўведзена норма аб праве падаткаплацельшчыка абскардзіць рашэнне падатковага органа ў судзе.

Упершыню для плацельшчыкаў індывідуальнага падатку, якія маюць пастаяннае месцажыхарства ў Савецкім Саюзе, уведзена правіла заліку заплачаных за мяжой падаткаў супраць падаткаў, якія падлягаюць аплаце ў СССР.

Закон «Аб падаходным падатку з грамадзян СССР, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства» ўводзіцца ў дзеянне ў асноўным з пачатку другой палавіны гэтага года, асобныя прадугледжаныя ў ім ільготы (у прыватнасці, на ўтрыманцаў) будуць прымяняцца да даходаў, атрыманых пасля 1 студзеня 1991 года.

У цэлым павышэнне падатковых ставак не закранае матэрыяльных інтарэсаў вялікай большасці падаткаплацельшчыкаў. І ў той жа час дазваляе часткова зняць сацыяльную напружанасць у грамадстве, акумуляваць сродкі для правядзення агульнадзяржаўных мерапрыемстваў і аслабіць ціск грашовай масы на рынак. Разам з тым зусім відавочна, што ў Савецкім Саюзе больш не існуе «падатковы рай» для замежных грамадзян. Што ж, уваходжанне савецкай эканомікі ў перыяд рэгулюемага рынку непазбежна выклікае і такі неад'емны кампанент дзяржаўных фінансаў, як прагрэсіўнае падаходнае падаткаабкладанне.

**Людміла МАМЕТ,**
**намеснік начальніка пададдзела падаткаў і збораў Міністэрства фінансаў СССР, кандыдат эканамічных навук.**

